Цана 15 гр. „Białaruski Front“ 15 sierpnia 1939 r. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА - РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 16 (50) Вільня, 15 жніўня 1939 г. Год IV

## ПАТРЭБА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ІДЭІ

Да апошніх часоў у беларускай прэсе мала пісалася аб патрэбе бел. нацыянальнай ідэі. Памінаючы ўжо розныя інтэрнацыянальныя кірункі, якія, пачынаючы ад Грамады, а канчаючы на „людовых“ фронтах і акцыі КПЗБ, адкідалі патрэбу пашырэньня нацыянальнай думкі пасярод беларускага грамадзянства, трэба прызнаць, што і іншыя бел. палітычныя кірункі, каторыя хоць і называлі сябе нацыянальнымі, таксама мала працавалі над узгадаваньнем беларускага народу ў духу нацыянальным. Ня можна сказаць, што яны не хацелі гэтакага ўзгадаваньня, не, яны хацелі і нават часта выяўлялі свае стараньні, каб прышчапіць нашаму народу любоў да свае бацькаўшчыны і заклікалі да працы на бел. нацыянальным грунце. Аднак, трэба сказаць праўду, іхнія заклікі былі часта голасам крычачых у пустыні і не давалі пажаданага рэзультату. Прычын гэтага сумнага зьявішча трэба шукаць ня толькі ў пашыраньні ў беларускім народзе інтэрнацыянальных плыняў, але яшчэ ў тэй псыхічнай і палітычнай атмасфэры, якая ствapылася каля гэтых „нацыянальных“ кірункаў. Бліжэйшыя і далейшыя людзі ў іхняй працы ня бачылі *чыстай* беларускай акцыі, але бачылі *зьмяшаную* з іншымі рознаякімі акцыямі, часта шкоднымі для беларускага народу. Ведама, што працуючы ў такой псыхічнай і палітычнай атмасфэры, да вялікіх рэзультатаў дайсьці трудна было.

У цяперашніх часох інтэрнацыянальныя кірункі, аб якіх мы ўспомнілі, афіцыяльна спынілі сваю дзейнасьць. Штораз менш можна пачуць аб арыштах і працэсах. Але мыляўся-б той, хто-б лічыў, што цяпер не пашыраюцца ў беларускім народзе інтэрнацыянальныя ідэі. Яны пашыраюцца, так як і даўней, толькі ўжо ня ў гэтакім маштабе і ня ў гэтакіх формах, як гэта было ў недалёкай мінуўшчыне. Цяпер КПЗБ падпарадкавана Камун. Партыі Польшчы (КПП) ня толькі арганізацыйна, але і ідэолёгічна, так далёка, што робіць уражаньне, што цяперашняя КПЗБ ёсьць *польскай* партыяй, так як на той бок рыскае мяжы Камун. Партыя Беларусі ёсьць *расейскай* партыяй... Гэтыя кірункі, лучна з даўнейшым расейскім лібэралізмам і заходня - эўрапэйскім дэмакратызмам, стараюцца зьнішчыць у бел. народзе нацыянальную думку. У сваіх імкненьнях яны забываюцца, да чаго такое нішчэньне давяло вялікую Расею і малую Чэхію — і да чаго можа давесьці беларускі народ! Бо ўсе інтэрнацыянальныя плыні, як левыя так і правыя, абезаружваюць народ, аслабляюць яго і прыводзяць да капітуляцыі.

З другога боку праўдай ёсьць, што той народ, які хоча жыць і разьвівацца, мусіць абапёрці сваё жыцьцё і развой на сваіх нацыянальных вартасьцях, на́ сваей мове, на сваей традыцыі (звычаях і абычаях) і на сваей гісторыі. Толькі такі народ, які апіраецца на гэтых нацыянальных вартасьцях, можа перятрываць усе жыцьцёвыя буры і не разьбіцца на часткі.

Якую вялікую вартасьць мае нацыянальная ідэя, можам зразумець тады, калі будзем разважаць жыцьцё народу, падзеленага на часткі. У такім прыпадку, паміма граніц, нацыянальная ідэя лучыць падзелены народны арганізм у адно цэлае. Гэтакаму злучэньню нішто не стаіць на перашкодзе: ані граніцы, ані далечыня, ані нават час. Нацыянальная ідэя лучыць усіх сяброў нацыі: і тых, што жывуць за граніцамі, і тых, што разьдзелены акіянамі, і тых, што разьдзелены часам. Нацыянальная ідэя лучыць паміж сабою тыя пакаленьні, якія ўжо адыйшлі, з тымі, якія маюць прыйсьці, а злучвом ёсьць жывучае пакаленьне... Сьведамы, ажыўлены нацыянальнай ідэяй беларус, скажам, у Амэрыцы, зьяўляецца часткай беларускага народу, таксама як і той, што жыве на бацькаўшчыне. Гэтаксама часткай беларускага народу зьяўляюцца пакаленьні цяперашнія, мінулыя і будучыя...

Чалавечая адзінка толькі праз цесную сувязь з жыцьцём свайго народу, з яго мовай, з яго культурай і традыцыяй можа разьвіваць свае творчыя магчымасьці. Жывучы і працуючы ў сваіх собскіх варунках, чалавечая адзінка найлепш і найкарысьней спаўняе свае заданьні. У іншых, чужых варунках чалавек ня можа гэтак выявіць сваіх здольнасьцяў. Гэта адносіцца перш за ўсё да паэтаў, якія найлепш і найбольш твораць у свaей мове і ў сваей стыхіі, якая выплывае з іх натуры. Нашы некаторыя паэты, якія хоць і дзяржацца інтэрнацыянальных кірункаў, аднак патрапілі даць бел. народу дасканальныя творы, а гэта затым, што дзяржаліся сваей нацыянальнай стыхіі. Магчыма, у чужой мове і ў чужых варунках яны не патрапілі-б ані выявіць у такой меры свайго таленту, ані абдарыць беларускага народу, а праз яго і ўсё чалавецтва, сваімі творамі. Беларускі народ, як жарало іхніх сіл, беларуская стыхія, як натхненьне іхняга творства, беларуская мова, як спосаб выяўленьня гэтага творства — ўсё гэта прычынілася да выкананьня імі сваей жыцьцёвай ролі.

Трэба яшчэ помніць заўсёды аб тым правіле, што *сьведамасьць і творчасьць нацыі выяўляецца ў адзінках. У адзінках б'е сэрца і думае розум нацыі.* Дзеля гэтага на ўсьведамленьне адзінак і на прабуджэньне іхнай творчасьці трэба зьвярнуць вялікую ўвагу.

Апроч гэтага не забываймася і аб другім важным правіле, што без вырашэньня нацыянальнага пытаньня ня можа быць справядліва вырашана і сацыяльнае пытаньне беларускага народу.

Як бачым, нацыянальная ідэя ў жыцьці адзінак і ў жыцьці ўсяго народу мае вялікае значэньне. Чалавек, які ідзе на службу гэтай ідэі, становіцца ня толькі сьведамым грамадзянінам, але і творцам новага жыцьця. Часта бывае так, што нацыянальная ідэя прабуджае да вялікіх чынаў тых людзей, якія ў іншых варунках вялі-б бескарыснае жыцьцё. Пад уплывам нацыянальнай ідэі прабуджаецца ў іх ахвота да працы, да ахвярнасьці, а часам нават да геройства! Здаецца, што ніякая філёзофічная ідэя ня можа прабудзіць у чалавеку столькі жыцьцёвых сіл, сколькі прабуджае добра зразумелая нацыянальная ідэя! Дзеля гэтага трэба гэту ідэю пашыраць у народзе!

## НЯМЕЦКА - ПОЛЬСКІ КАНФЛІКТ.

З усіх сучасных канфліктаў, якіх цяпер гэтак многа на сьвеце, найбольшую ўвагу ў апошнім часе зьвярнуў на сябе нямецка - польскі канфлікт. Вочы ўсяго палітычнага сьвету зьвернены цяпер на Гданск. Зьвернем на яго і мы.

Некаторыя думаюць, што **сутнасьць** нямецка-польскага канфлікту ляжыць у Гданску і ў г. зв. „карыдоры“. Аднак такое судженьне ёсьць вельмі памылковае, бо сутнасьць гэтага канфлікту ляжыць ва ўсходніх плянах Нямеччыны, аб якіх мы ўжо няраз пісалі, а з другога боку — у супраціве Польшчы гэтым плянам. Інакш кажучы, Польшч лягла ўпоперак дарогі нямецкім імкненьням на ўсход— і вось у гэтым факце трэба шукаць найглыбейшай прычыны сяньняшняга канфлікту паміж Нямеччынай і Польшчай. Ідзе цяпер аб тое, ці Нямеччына затрымаецца перад гэтай перашкодай, ці папрабуе яе зламаць? Усё сьведчыць аб тым, што Ням. прыгатаўляецца да гэтага другога выхаду, а Гданск зьяўляецца толькі адным з адцінкаў, дзе можа пачацца змаганьне паміж Нямеччынай і Польшчай.

Выходзячая ў Катавіцах „Polonia“ піша, што ў жніўні адбудзецца дэцыдуючая фаза змаганьня за Гданск. Гітлер не адступіў ад свайх плянаў. Напаткаўшы ў сакавіку сёлета на рашучы супраціў Польшчы, ён затрымаўся, зьмяніў тактыку, разлажыў свой плян на цэлы рад этапаў і цяпер будзе рэалізаваць гэтыя этапы.

Якіяж гэта этапы?

Перш за ўсё **ўкрапленьне Гданска.** Польская прэса піша, што ў Гданску цяпер ёсьць адна ням. дывізія, але можа быць другая і трэцяя, бо розныя „турысты“ маса прыяжджаюць у Гданск з усяе Нямеччыны, як морам так і з Усх. Прусіі. З гэтай апошняй у Гданск немцы ўжо збудавалі яшчэ адзін мост праз Віслу, кудою маюць перапраўляць аружжа і амуніцыю. Усе выступленьні гданскіх уладаў проціў польскіх мытных урадаўцаў (Гданск належыць да польскага мытнага абшару) меў на мэце зэрганізаваць і прыпыніць польскую мытную службу на гданскіх граніцах, каб магчы правезьці з Усх. Прусіі і аружжа і амуніцыю. Былі нават весьці, што Гданскі сэнат мае зусім адсунуць ад службы польскіх мытных урадаўцаў, але польскі ўрад паставіўся востра проціў такіх намераў і выслаў да гданскіх уладаў ультыматыўнае жаданьне вярнуць польскім мытным урадаўцам усе правы. Часу дадзена было да 5 жніўня, г. зн. да прамовы марш. Рыдза-Сьміглага. Яшчэ перад гэтым тэрмінам гданскія ўлады пайшлі на ўступку і цяпер польскія мытныя ўрадаўцы спаўняюць свае абавязкі з вінтоўкамі ў руках...

Другім важным этапам у ня-

мецкай акцыі ёсьць **канцэнтрацыя вялікіх ням. сіл на ўсім працягу польска-ням. граніцы,** ад Славаччыны аж да Ўсх. Прусіі. У апошніх часох гэтая канцэнтрацыя зрабілася натолькі абшырнай, што ням. войскам пазайманы нават усе школы. Аб гэтай канцэнтрацыі піша ўся польская прэса і расказваюць уцекачы з нямецкай тэрыторыі.

Трэцім этапам ням. акцыі ёсьць **ізаляцыя і акружэньне Польшчы, як з поўначы, так і з поўдня.** Трэба прызнаць, што на гэтым фронце Нямеччына можа пахваліцца некаторымі здабыткамі. Гэта адносіцца перш за ўсё да Прыбалтыкі і скандынаўскіх дзяржаў (поўнач), а такжа да Славаччыны і Вугрыі (поўдзень). Як тут так і там нямецкая дыплямацыя адціснула польскую. Аб Прыбалтыцы мы пішам у „Зацемках з жыцьця“, аб ням. уплывах у Скандынавіі піша „Kur. Wil.“ (11.VIII), каторы кажа, што ў заложаным нямецкім „Паўночным Таварыстве“ (Nordische Gesellschaft), у якім бяруць удзел выдатныя нямецкія і скандынаўскія сілы (данскія, нарвэскія і швэдзкія), праводзіцца ня так навуковая праца, як палітычная, прыгэтым немцы выяўляюць вялікую прыязьнь адносна скандынаўскіх палітычных і навуковых кругоў. Апроч гэтага Скандынав'я, асабліва Швэцыя, вельмі спужалася савецкіх гваранцыяў адносна прыбатыцкіх дзяржаў, датаго, што містэр Стрэнг, варочаючыся з Масквы ў Лёндан, уважаў за патрэбнае заехаць у Штокгольм і ўспакоіць швэдзкіх палітыкаў... Ня гледзячы на гэтае ўспакаеньне Швэцыя разам з Фінляндыяй пасьпешна праводзяць украпленьне Аляндзкіх астравоў, баючыся, каб іх не „загварантавалі“ Саветы ў супалцы з Англіяй і Францыяй.

На поўдні адносіны Славаччыны да нямецкай палітыкі ведамы: там немцы каля Карпат будуюць свае вайсковыя базы і канцэнтруюць сваю армію, а ў сталіцы Славаччыны, Братыславе, фармуецца ўкраінскі легіён... Што датыча Вугрыі, дык аб ёй цікавыя спасьцярогі друкуе „Robotnik“. Як ведама, у польскім грамадзянстве часта кажацца, што „паляк і вугар — гэта два братанкі“. Вось-жа гэты вугорскі „братанак“ дзяржыцца вельмі падазрона. „Robotnik“ у артыкуле „Бэрлін уладае за Карпатамі“ зусім ня цешыцца з супольнай граніцы з Вугрыяй і кажа, што гэта не польска-вугорская граніца, але польска-нямецкая... Але і гэтага, відаць, яшчэ мала, бо ў нутры Вугрыі вядзецца вострая ням. агітацыя, каб палітыку Вугрыі цалком падпарадкаваць палітыцы Нямеччыны. Ходзяць нават чуткі аб вонкавым націску на Вугрыю ў гэтым кірунку. Нямеччына пры будучых „рашучых падзеях“ хоча мець у Вугрыі пэўнага саюзьніка, які-б „не падвёў“.

Гэтак выглядаюць справы на поўначы і на поўдні Польшчы. Што датыча ўсходу, г. зн. Саветаў, трэба прызнаць, што яны праз увесь час дзяржацца вельмі загадкова, так што некаторыя падазраюць іх нават у ціхой змове з Нямеччынай, а частка ўкр. прэсы („Нац. Політика“ № 28) дапускае магчымасьць новага Рапальлё г. зн. змовы паміж Ням. і Саветамі, на падставе якой Саветы пры выбуху ням.-польскай вайны, маглі-б увесьці сваю армію на г. зв. „усходнія крэсы“, каб „гварантаваць“ сябе ад Нямеччыны... Праўда, гэтакае дапушчэньне вельмі непраўдападобнае, але ў палітыцы ўсё магчымае і нават найболей непраўдападобныя рэчы робяцца праўдападобнымі...

Найболей аднак увагі Нямеччына зварочвае на **прапаганду ў Англіі і Францыі,** каб іх пракапаць, што за Гданск ня варта праліваць вартаснае англійскае і французскае крыві. Ням. прапаганда заяўляе, што яна болей нічога ня хоча, як толькі далучэньня да Райху Гданска і правядзеньня аўтастрады ў Усх. Прусію. Цяпер нават справа аўтастрады закінена, а толькі падымаецца справа **Гданска,** як такога, бяз ніякіх далейшых жаданьняў! І трэба сказаць, што ў некаторых англійскіх кругох, асабліва фінансавых і гандлёвых, у якіх вельмі сільны „мюнхэнскія павевы“, ням. агітацыя зрабіла некаторыя сьляды...

Што-ж на ўсё гэта Польшч?

У часе бытнасьці ў Польшчы англійскага ген. Айронсайда, калі частка эўрапэйскай і нават польскай прэсы („Czarno na białem“) пачала сумнявацца ў датрыманьні Англіяй свайго слова адносна гваранцыяў, дадзеных Польшчы, марш. Рыдз-Сьміглы заявіў: „Вычэрпаем усе мэтоды залагоджаньня справы Гданска мірным спосабам, але калі Нямеччына будзе стаяць пры сваіх плянах Аншлюсу, **Польшч прыйме змаганьне, калі-б нават мела біцца сама і без саюзьнікаў“.** Значыць, польскія дэцыдуючыя дзейнікі дапускаюць магчымасьць змаганьня і без саюзьнікаў! Другім разам, марш. Рыдз-Сьміглы, прамаўляючы на зьезьдзе легіяністаў у Кракаве 6.VIII., так сфармулаваў **становішча Польшчы:**

1) Жыцьцё і доля кожнага чалавека цесна зьвязаны з долею яго бацькаўшчыны. Ніводзін чалавек ня здолее ўлажыць свайго жыцьця так, каб яно было сапраўды людзкое і годнае, калі жыцьцё ягонай бацькаўшчыны пазбаўлена гэтай годнасьці;

2) Гвалту проціў бацькаўшчыны ня можна адбіць ані заклікам да пачуцьця справядлівасьці, ані заслугай для чалавецтва, ані ахвярнасьцяй для цывілізацыі, ані доказам вочавіднасьці і абсурдальнасьці гвалту, але гвалт мусіць быць адбіты сілаю;

3) Уласную сілу прадстаўляе ўласны жаўнер, дык трэба мець жаўнера, які ўмее біцца і ўміраць за бацькаўшчыну.

Як бачым з слоў павадыра польскай арміі, Польшч у сваей палітыцы апіраецца перш за ўсё на свае собскія сілы і гатова біцца нават адна ў выпадку заатакаваньня яе Нямеччынай. Польская палітыка лічыць, што заатакаваная Польшч, дзякуючы сваей арміі, зможа доўгі час бараніцца, а тады Англія і Францыя, пабачыўшы, што Нямеччыне ідзе зусім не аб Гданск, усёжтакі выступяць, а тады выступіць і Амэрыка — і ў рэзультаце Нямеччына будзе пераможана...

Відаць Нямеччына мае свае труднасьці, што гэтак доўга адкладае вырашэньне гданскай справы. Вельмі добра характэрызуе тактыку Гітлера бэрлінскі карэспандэнт англ. газэты „Observer“, які так піша: „Канцлер Гітлер ня прыйме ніякага вырашэньня ў справе Гданска, пакуль ня выясьніцца рэзультат маскоўскіх гутарак. Калі ў Бэрліне будуць пэўныя, што Саветы ў нямецка-польскай вайне будуць нэўтральнымі, тады Бэрлін пастараецца аслабіць сувязь Польшчы з Англіяй, выказваючы „ўпар Варшавы“ у такой „дробнай“ справе, як Гданск, а потым ужо наступіліб „рашучыя падзеі“...

Да гэтага трэба было-б дадаць і тое, што Нямеччына на „рашучыя падзеі“ стараецца цяпер раздабыць згоду Італіі. На зьезьдзе мін. Чыяно і Рыбэнтропа ў Зальцбургу (12.VIII) быццам была абгаворана і „гданская справа“. З якім рэзультатам — пакульшто няведама. Адно ведама: Нямеччына ўсімі сіламі імкнецца да вырашэньня „гданскай справы“ яшчэ сёлета... Фэрстэр, пасьля павароту з Бэрхтэсгадэн у Гданск заявіў, што Гданск будзе далучаны да Нямеччыны — і то ў хуткім часе... З гэтых слоў у паліт. кругох робяць вывад, што Нямеччына ў найбліжэйшым часе гатовіць нейкія неспадзеўкі.

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Нямецкія ўплывы ў Прыбалтыцы.** Прыбалтыцкія дзяржавы (Эстонія, Латвія і Літва), баючыся савецкіх „гваранцыяў“, пачалі шукаць апірышча ў Нямеччыне, што ў рэзультаце ўзмагло нямецкія ўплывы ў гэтых дзяржавах.

„Robotnik“ (10.VIII.) зьмясьціў вялікі артыкул аб нямецкіх уплывах у **Латвіі.** З гэтага артыкулу мы даведваемся, што дыктатар Латвіі, Ульманіс, рашуча пакінуў палітыку хістаньня паміж Саветамі і Нямеччынай і павярнуў у бок Нямеччыны. Латвія дэманстрацыйна падпісала пакт ненападаньня з Ням., парываючы гэтым самым з Англіяй, Францыяй і Саветамі. У Латвіі праканаены, што ў часе маскоўскіх перагавораў з бальшавікамі „Англія прадала Латвію“ і што трэба шукаць ратунку ў Нямеччыне... Лат-

# Да літоўска-беларускіх адносінаў.

У артыкуле **„Аб беларуска-літоўскіх адносінах“** („Б. Фр.“ № 14) мы разгледзелі тэрыторыяльныя прэтэнсіі Літвы да беларускіх абшараў. Цяпер спынімся над аргумэнтамі, на якіх літоўцы апіраюць свае жаданьні. Усе гэтыя аргумэнты зводзяцца, фактычна, да аднаго **гістарычнага,**— які выступае ў розных модыфікацыях. Першая яго фаза выявілася ўжо ў пачатковую пару літоўскага адраджэнскага руху, калі паўстала літоўская гісторыёграфія. Літоўскія гісторыкі, як Басановіч, Давойна-Сыльвэстровіч, выступілі на арэну гістарычнага дасьледаваньня жыцьця свайго народу з вялікім размахам. Яны захапілі літаральна ўсю гісторыю б. Вялікага Княства Літоўскага і ідэнтыфікавалі яго з паўстаючай „Новай Літвой“. Пагляды літоўскіх гісторыкаў перадаліся літоўскім паэтам, якія ў сваіх патрыётычных творах пісалі напр. аб Беларусі і далёкай Украіне як аб „кусках“ аднае Вялікае Літвы, што ізноў паўстае да жыцьця. З гледзішча гэтага размаху можна сказать, што літоўскі адраджэнскі рух быў поўнай процілежнасьцю беларускаму.

Прэтэндуючы на ўсю гісторыю Вялікага Княства, новая Літва, ясна, прэтэндавала тэорэтычна і на ўсе належаўшыя да яго землі, тым больш, што панаваўшая ў XIX ст. тэорыя аб дагістарычных насельніках Беларусі казала, быццам уся Беларусь да прыходу беларускага народу, была заселена продкамі літоўцаў, якіх беларусы адсунулі на поўнач, займаючы іхнія сялібы. Як бачым, гэта першая фаза „гістарычнага аргумэнту“ абасноўвала літоўскія прэтэнзіі да беларускіх земляў **дзяржаўнай прыналежнасьцю** апошніх да Вялікага Княства Літ. і ў дапамогу паклікалася на літоўскі характар дагістарычнага насельніцтва Беларусі. Гэткі пагляд даваў магчымасьць літоўцам захапіць толькі бел. земляў, колькі яны хацелі.

Гэтая фаза скончылася тады, калі зьявіліся гістарычныя працы беларускіх гісторыкаў гэткай меры як **М. Даўнар-Запольскі** і **М. Любаўскі.** Дзякуючы іхнім капітальным досьледам над гісторыяй роднага краю, была аканчальна разьвеяна нарбутоўская мітолёгія, а гісторыя Вял. Кн. Літ. знайшла навуковае асьвятленьне. Было сьцьверджана, што Вял. Княства зьяўлялася гаспадарствам „рускім“ (беларускім) і было створана беларусамі. Працы Даўнар-Запольскага і Любаўскага дагэтуль лічацца найбольш об'ектыўнымі і грунтоўнымі з усей гісторыёграфіі аб Вялікім Княстве Літ. Утоесамленьне Вял. Кн. Літ. з „новай Літвой“ сталася немагчымым. Польскі гісторык Ф. Конэчны (Ateneum Wil. roczn. IX. 1930) прапанаваў нават і вельмі трапна, на азначэньне таго, што ў гісторыі Вял. Кн. было зроблена не славянскай часткай яго насельніцтва, ўжываць назоў „Летува“, „летуўскі“ (як называюць сябе сяньня этногр. літоўцы), а не „Літва“, „літоўскі“, бо гэтыя апошнія ў Вял. Кн. Літ. адносіліся наўперад да беларусаў, што сьцьвердзілі іншыя дасьледчыкі. Адначасна архэолёгічныя раскопкі на тэрыторыі Беларусі ўсё больш пацьвярджалі, што бел. плямёны былі першабытнымі насельнікамі свайго краю і нават, што дарэчча Прыпяці было славянскай прарадзімай, скуль славяне разыходзіліся ў розныя бакі.

Дагістарычныя „ўладаньні“ літ. этногр. элемэнту ў сьвятле новых досьледаў усё больш корчыліся. У сувязі з гэтым зчэзлі літоўскія прэтэнзіі да бел. земляў на аснове дзяржаўнае прыналежнасьці іх да б. Вял. Княства, літоўцы моцна адступілі, але ня хочучы аканчальна зрэзыгнаваць з прэтэнзіяў і замкнуцца ў сваіх этнограф. граніцах, ахварбавалі гістарычны аргумэнт у новы колер і пусьцілі ў сьвет. Нарадзілася другая яго фаза, каторая пануе дагэтуль у літоўскім грамадзянстве. Паводле гэтай адмены літоўцы кажуць, што іхнія этнографічныя межы ў мінуўшчыне йшлі значна глыбей у бел. абшары і прынамся пакрываліся з тымі граніцамі, дзе цяпер жывуць беларусы-каталікі. А гэтыя граніцы больш менш пакрываюцца з тымі, якія бачым на літ. картах Вайчуляйтіса (гл. № 14 „Б. Ф.“). Літоўцы лічаць, што цяперашнія беларусы-каталікі — гэта па паходжаньню чыстыя літоўцы, але з цягам часу збеларушчаныя. Чыстымі беларусамі трэба лічыць толькі праваслаўных. Разважаньні гэтыя апіраюцца галоўна на тым, што беларусы куды раней прынялі хрысціянства ўсходняе і трымаліся яго, а літоўцы ахрысьціліся ў каталіцтва толькі ў 1387 г. і такжа моцна трымаліся сваей р.-кат. рэлігіі. Гэткім парадкам хоць з цягам часу значныя літ. абшары былі збеларушчаны, дык усёж рэлігія мае быць добрым паказчыкам, дакуль гэтыя абшары дахадзілі ў мінуўшчыне. На гэтым дапушчэньні, што **беларусы каталікі** гэта толькі **збеларушчаныя літоўцы** і апіраюцца літ. прэтэнзіі да бел. земляў з Вільняй і Горадняй.

Яны маюць вярнуцца да Літвы і тады пачнецца іхняе адбеларушчаньне. Таму літоўцы не ўважаюць патрэбным дэкляраваць нейкую аўтаномію для земляў з каталіцкім бел. насельніцтвам. Проста пачалася-б рэвіндыкацыя ўкрадзеных душ, як яна адбываецца ў іншых краёх. І хоць гэты аргумэнт у новай форме ёсьць куды скрамнейшы ад папярэдняга, аднак і ён ня можа ўтрымацца ў сьвятле дасюлешніх навуковых дадзеных. Бо калі хоць на хвіліну пагадзіцца з літоўскім паглядам, што беларусы былі толькі праваслаўнымі, тады трэба раз назаўсёды адкінуць літоўскія прэтэнзіі да Горадні і Вільні, бо гэтыя гарады заложаны праваслаўнымі беларусамі.

Што да Горадні, дык апошнія раскопкі Ёдкоўскага ўстанавілі, што Горадня была „рускім“ (беларускім) горадам ад свайго пачатку і што ўжо ў XII ст. тут былі праваслаўныя мураваныя цэрквы! Дапушчэньне Лаўмянскага, быццам Горадня была спачатку літоўскім аселішчам і толькі ў XV ст. сталася горадам, аказалася ні на чым не апёртай байкай. Няма ніякіх дадзеных, каторыя пацьвярджалі-б „літоўскі“ („летуўскі“) пачатак Горадні.

Што да Вільні, дык тут на карысьць беларусаў прамаўляюць ня толькі архэолёгічныя дадзеныя, але і пісьменныя дакумэнты. „Крывы горад“, дзе вядуцца раскопкі, як і назовы гары, дзе ён быў („Лысая“, „Крывая“, пакуль яе не замянілі на „гару Бэкеша“) сьведчаць цалком ясна, што тут ад пачатку было славянскае крывіцкае

війскі ўрад парваў інфармацыйны кантакт з Лёнданам, дагэтуль паддзержываны і пачаў братацца з Нямеччынай. Нямецкая прэса („Angriff“ і „Berliner Börsenzeitung“) выдала спэцыяльныя нумары, прысьвечаныя прыязнай Латвіі. Нямецкія арганізацыі ў Латвіі маюць поўную свабоду дзеяньня, тады калі апазыцыйныя латвійскія закрываюцца. Нядаўна ў Рызе адбылося „братаньне“ вышэйшых вайсковых сфэраў Латвіі з прадстаўнікамі нямецкай арміі, якая ў часе Вялікай вайны была заняўшы Рыгу. У апошнім часе закінены прыязныя адносіны з Польшчай і з польскай арміяй, а візыта павадыра латыскай арміі ў Варшаве, праектаваная на чэрвень сёлета, адложана на неазначаны час. Гэтая перамена ў польска - латвійскіх адносінах сталася тады, калі Польшч заняла здэцыдаванае становішча супроць нямецкай агрэсіі. Латвійскі мін. загр. спраў Мунтэрс нядаўна быў нагароджаны высокім нямецкім ордэнам.

Гэтакія справы дзеюцца ў Латвіі, а цяпер паглядзім, што робіцца ў **Літве.**

„Kur. Wil.“ (11.VIII) паведамляе з Коўні, што вялікае ўражаньне выклікалі там запросіны дырэктара эканамічнага дэпартамэнту міністэрства загр. спраў Норкайтіса і ген. Нагіус-Нагевічіуса ня гітлероўскі кангрэс, які мае адбывацца 3—9 верасьня ў Нюрынбэрзе. Робяцца стараньні каля ўтвареньня літ.-нямецкага т-ва, запраектаванага ў часе бытнасьці ў Коўне (паўтара месяца таму) спэцыяльнага нямецкага дэлегата ў Прыбалтыцкія дзяржавы, дра Кляйста. Літ. прэса вельмі асьцярожна пачала пісаць аб Нямеччыне, асабліва аб асобе яе павадыра Адольфа Гітлера. Усё гэта паказвае, што і ў Літве пашыраюцца ў скорым тэмпе нямецкія ўплывы.

Затрымаліся мы даўжэй над нямецкімі ўплывамі ў Прыбалтыцы, бо гэтыя ўплывы датычаць і беларускага народу. Нас інтэрасуе найболей пытаньне: **якою цаною і чыім коштам пашырае Нямеччына свае ўплывы ў Латвіі, асабліва ў Літве?** Весткі аб кантакце Літвы з Нямеччынай даходзяць да бел. грамадзянства ўжо здаўных і выклікаюць у ім зразумелае ўражаньне. Для ўсіх ясна, што калі Літва пасьля страты Клайпэды ар'ентуецца (ці прабуе ар'ентавацца) на Нямеччыну, мае ад гэтай апошняй нейкія абяцаньні. Якія? Можа Вільня і Віленшчына? А можа часьць Горадзеншчыны? Алеж гэтыя мясцовасьці, як мы ўжо няраз даказвалі, не зьяўляюцца літоўскімі! Значыць нагарода за Клайпэду меласяб адбыцца коштам беларускага народу!

Праўда, ўсё гэта праекты, якія могуць і астацца праектамі, толькі мусім тут адзначыць, што мы, як **незалежны** беларускі орган, павінны рэагаваць нават на несправядлівыя праекты.

**„Фэдэрацыйная ідэя“.** Побач з „славянскай ідэяй“, якую пашырае ген. Жэлігоўскі, у польскай прэсе зьявіліся першыя ластаўкі і „фэдэрацыйнай ідэі“. І так, „Kur. Wil.“ (10.VIII.c.) зьмясьціў перадавы артыкул пад заг. „Idea federacyjna a chwila obecna“. Праўда, загаловак вельмі актуальны, хоцьбы дзеля таго, што ўскрасіў ідэю, якая, здавалася, даўно ўжо памярла. Але справа і кончыцца на актуальным загалоўку, бо аўтар артыкулу не падае ніякіх канкрэтных праектаў, як ён хацеўбы рэалізаваць сваю „фэдэрацыйную ідэю“ ў сяньняшніх часох і абставінах. Не падае нават „кандыдатаў“, якіх ён хацеўбы відзець у гэтай фэдэрацыі, сьцьвярджае толькі, што спробы рэалізаваньня фэдэрацыйнай праграмы ў першых гадох існаваньня Польшчы збанкрутавалі на ўсей лініі. Як ведама, тады марш. Пілсудскі праектаваў стварэньне пад пратэктаратам Польшчы двух „буфаровых“ дзяржаў: Украіны і Беларусі. У справе ўтварэньня Ўкраіны быў нават падпісаны дагавор з Петлюрай і наладжаны паход на Кіеў. Пасьля ведамых няўдач фэдэрацыйны плян быў пахаваны Польшчай.

У апошніх гадох гэты плян быў узьняты Нямеччынай і ням. палітыкі ў гутарках з польскімі дзяржаўнымі мужамі стараліся ўскрасіць фэдэрацыйную ідэю, заяўляючы ім, што тыя пляны, якія Польшч не магла сама правесьці, могуць быць праведзены ў саюзе з Нямеччынай... Аднак польская палітыка гэтыя пляны адкінула. Дык вельмі нас зьдзівіў артыкул „Kur. Wil.“. Што ён можа значыць? Спробы рэалізацыі даўнейшага фэдэрацыйнага пляну? Алеж на гэта цяпер няма абсалютна ніякай магчымасьці, бо гэткі плян зьвязаны з падзелам Расеі, а цяпер, як ведама, Расея знаходзіцца пад гваранцыяй Англіі і Францыі. А можа гэта фэдэрацыя мелаб абняць толькі народы, якія знаходзяцца ў граніцах Польшчы? На наш пагляд, да гэтага ня ідзе. Праўда, у Львове ідуць гутаркі паміж прадстаўнікамі польскага і ўкраінскага грамадзянстваў, але няма ніякага сумліву, што „фэдэрацыйная ідэя“ не зьяўляецца падставай гэтых гутарак. Дык якая была мэта гэнага перадавога артыкулу ў „Kur. Wil.“?

**Польска - ўкраінскія гутаркі.** Польская прэсавая агэнцыя „Echo,“ прыносіць з Львова такую вестку: „Ад нейкага часу з ініцыятывы мясцовых польскіх дзейнікаў вядуцца гутаркі з украінскімі кругамі. Гутаркі гэтыя вядуцца на плятформе рачовай з выключэньнем усіх дражлівых палітычных квэстыяў і існуе надзея на памыснае іх заканчэньне. З украінскай стараны бяруць удзел у гутарках выдатныя прадстаўнікі гаспадарчых і культуральных арганізацыяў. Паводле непацьверджаных яшчэ вестак прадстаўнікі абедзьвух старон змаглі ўжо дайсьці да паразумленьня ў шматлікіх прынцыповых квэстыях, з захаваньнем як інтарэсаў украінкай стараны, так і мясцовага польскага элемэнту“.

Гэтулькі падае польская агенцыя. Няма яшчэ паведамленьня з боку ўкраінскага. Але няма сумліву, што гэтыя гутаркі — гэта працяг нармалізацыйных імкненьняў, якія ўжо ад некулькіх гадоў спасьцерагаюцца паміж польскім урадам і ўкр. Ундам. Дагэтуль усе нармалізацыйныя натугі не давалі бадай ніякага рэзультату. Казалі, што галоўнай прычынай безрэзультатнасьці нармалізацыі быў факт, што з боку польскага нармалізацыю праводзіў урад, а не грамадзянства, цяпер-жа выглядае, што за нармалізацыю польска - ўкраінскіх адносін узялося польскае грамадзянства. Толькі няма ведама, якое гэта грамадзянства: ці ўсё, з уключэньнем прадстаўнікоў ад усіх польскіх груп, нават эндэцыі, ці толькі ад часткі, напрыклад, ад Озону, ці польскай дэмакрацыі? З боку ўкраінскага, як ведама, дагэтуль бралі ўдзел прадстаўнікі толькі аднэй групы, УНДО. Калі і цяпер толькі **часткі** абодвух грамадзянстваў гавораць паміж сабою, дык ня трэба мець вялікай надзеі на пазытыўныя рэзультаты.

—•—

# На беларускім грунце

**НЕДАРУЧАНЬНЕ „БЕЛ. ФРОНТУ“.**

Вельмі часта з розных куткоў краю прыходзяць да нас весткі і скаргі, што не даходзіць „Бел. Фронт“. Дасьледжваючы прычыну гэтага „недаходжаньня“ нашай газэты да рук адрасатаў, мы пракаваліся, што віна ляжыць не заўсёды па старане вясковых паштыльёнаў, але і іншых асоб... Маем на гэта дакумэнты; некаторыя справы скіраваны ў Віленскую Дырэкцыю Пошт і Тэлеграфаў, якая робіць даўгія і марудныя досьледы. Аб гэтых досьледах і іх рэзультатах мы будзем пісаць другім разам, а цяпер затрымаемся над адным пісьмом з Пружаншчыны. Адзін грамадзянін адтуль выпісаў „Бел. Фронт“. Прыслаў нам грошы, мы выслалі яму газэту, пэўныя, што ўсё ў парадку. Аднак месяц пасьля атрымліваем ад яго пісьмо такога зьместу: Прашу паведаміць мяне, ці высылаеце мне газэту, бо я выслаў грошы 19.VI.39 г. і дагэтуль яшчэ (28.VII.39 г.) не атрымаў газэты. На пошце быў, там адказалі, што не атрымліваюць ніякай беларускай газэты. Раней, у мінулым годзе, у нашую вёску ішоў „Шлях Моладзі,“ але мала пайшоў, бо недзе застраг. Ня доўга ждучы, я па-

аселішча, што ёсьць згодным з весткай „Воскрэсенскага“ летапісу аб Вільні. Незалежна ад гэтага там, дзе цяпер ёсьць Бакшта, быў другі „рускі“ (беларускі) умацаваны горад. А калі зьвярнуцца да пісьменных дакумэнтаў аб Вільні, дык адразу робіцца ясным, што найстарэйшая частка Вільні, яе „сэрца“ была „рускай“ (беларускай“ і праваслаўнай. Гэтае „сэрца“ Вільні знаходзілася ў абрубе даўнейшых віленскіх муроў, якія паводле М. Лаўмянскай („Wilno przed najazdem moskiewskim 1655 r.“) пачыналіся ад цяперашняй Катэдральнай званіцы і ішлі вуліцай Боніфратэрскай, Людвісарскай да Віленскай, потым між Пазнанскай і Жэлігоўскага і, не даходзячы да Завальнай, беглі ўздоўж яе да Конскай, потым па Базыльянскай да Субача, скуль да мосту праз Віленку пры Мэтрапалітальнай царкве; згэтуль ішлі ўздоўж Віленкі да мосту пры Бэрнардынскім касьцеле, дзе і канчаліся, бо далей места забясьпячала Віленка аж да замку. У гэтай „рускай“ частцы Вільні было 10 цэркваў, з якіх бальшыня зьявілася надоўга перад касьцёламі. Тут канцэнтравалася ўсё жыцьцё гораду. Найдаўнейшыя касьцёлы былі тут збудаваны толькі ў канцы XIV ст. (Катэдра і Сьв. Мікалая, які абслугоўваў каталіцкіх „гасьцей“ (купцоў), пераважна немцаў). Назовы брамаў у мурох — Субача, Вострая, Спаская, Рудніцкая (ад слова „Руднікі“), Татарская, Вялейская, Бэрнардынская і Магдалены (дзьве апошнія выступаюць пазьней), як і вуліц з „завулкамі“ (Вялікая, Замковая, Зарэчная, Савіча (сяньня Бакшта), Спаская (сяньня Міласэрная), Рудніцкая, Конская, Філіпаўская (сяньня Гаона), Прачысьценская (сяньня Мэтраполітальная), Цялячча (сяньня Людвісарская), Скапоўка (ад слова „капа“, „скапіцца“, што азначала месца, дзе зьбіраўся копны суд, а не ад нейкага баламутнага „smoka“, як выводзе Клос у сваім правадніку па Вільні, бо ў беларускіх местах да ўвядзеньня майтборскага права судоўніцтва знаходзілася ў руках г. зв. копных судоў) і іншыя — гавораць самі за сябе. Нічога „летуўскага“ тут знайсьці не магчыма. Гэтак выглядае справа Горадні і Вільні, нават калі пагадзіцца з цяперашнім літоўскім пунктам гледжаньня аб літоўскім паходжаньні беларусаў-каталікоў.

Але літоўскае гледзішча ёсьць памылковым з іншых прычын. Наўперад трэба адкінуць думку аб масавай беларусізацыі літоўцаў на працягу гісторыі. Калі частка літоўцаў і зьбеларушчылася, дык, адносна, вельмі малая і то там, дзе літоўцы жылі зьмяшаныя з беларусамі. Раскопкі ведзеныя ў Дзісеншчыне, Пастаўшчыне, Вільні і Горадні даказалі ўсюды наяўнасьць славянскага (крывіцкага) насельніцтва на мясцох раскопак ад найранейшай пары гісторыі. Гэткім парадкам зьбіваецца пагляд, быццам этнографічная літоўская мяжа даўней праходзіла значна больш на поўдзень (Паставы — Маладэчна — Ваўкавыск — Слонім, да якой мяжы больш менш дахадзіла бел. насельніцтва паводле Лаўмянскага, а за якой на поўнач ляжалі або абшары заселеныя літоўцамі, або пустыя). Магчыма, што далейшыя раскопкі выявяць наяўнасьць крывічоў далей на паўночны захад ад Вільні, Горадні, Пастаўшчыны і Дзісеншчыны і зблізяць этнографічную мяжу між беларусамі і літоўцамі, існаваўшую ў мінуўшчыне, да сучаснай. Як-бы там ня было, трэба думаць, што ў некаторых мясцох уздоўж сучаснай этногр. беларуска-літоўскай мяжы ляжалі, як дапушчае Лаўмянскі, незаселеныя пушчы. З цягам часу гэтыя пушчы калянізаваліся з абодвух бакоў — літоўскага і беларускага. Паўставалі мяшаныя абшары. Ня былі яны аднак гэткімі шырокімі, як думае Лаўмянскі, бо вузкасьць іх пацьвярджаюць раскопкі. Толькі на гэтых мяшаных абшарах літоўскае насельніцтва беларушчылася, бо было слабейшым ад беларускага лічбова, ня кажучы ўжо аб ніжшасьці культурнай і палітычнай. Гэткім парадкам у сьвятле навейшых навуковых дадзеных выключаецца магчымасьць беларушчаньня ў мінуўшчыне суцэльных этнографічна літоўскіх абшараў. Там дзе літоўцы зьбеларушчыліся, яны напэўна былі мяншынёй у параўнаньні з беларусамі. Ужо гэта выключае магчымасьць залічаньня абшараў заселеных цяпер беларусамі-каталікамі да некалішніх этнагр. літоўскіх, а самых беларусаў-кат. лічыць зьбеларушчанымі літоўцамі.

Але калі прасачыць гісторыю пашырэньня ў Беларусі каталіцтва, дык і тады будзе ясным, што каталіцтва прыймалі і праваслаўныя беларусы, а ў XVII ст. нават масава. На прыкладах беларус. магнатаў і баярства гэта выступае з асаблівай яснасьцю. А магнаты і баяры, перайшоўшыя з праваслаўя ў каталіцтва, завадзілі апошняе ў сваіх вялікіх земляўладаньнях з беларус. насельніцтвам. У канцы зусім ня выключана, а нават і пацьвярджаецца жароламі, што і ў 1387 г., калі быў каталіцкі хрост літоўцаў, мноства праваслаўных, а значыцца беларусаў, такжа перахрысьцілася ў каталіцтва. Гэткім парадкам каталіцтва пашыралася ў нас адразу ня толькі між літоўцамі, але і беларусамі. Шляхі пашырэньня каталіцтва на землях б. Вял. Княства, прычыны гэтага зьявішча і ягоны абсяг зусім не прадстаўляюцца гэтак проста, як думаюць літоўцы і таму залічваньне ўсіх беларусаў каталікоў да літоўцаў з паходжаньня ёсьць абсалютна безасноўным. І як ня можа апраўдаць літоўскіх прэтэнсіяў да бел. земляў першая адмена гістарычнага аргумэнту, гэтак сама ня можа іх апраўдаць і другая, толькі што разгледжаная.

Гэтак прадстаўляецца звялікшага літоўская аргумэнтацыя. Трэба сказаць, што літоўскую старану ўвяло ў абмылку не ў малой ступені імкненьне мерыць „літоўскасьць“ Вял. Княства сучасным сэнсам гэтага слова. А тымчасам гэтыя два паняцьці літоўскасьці (даўней і цяпер) зьяўляюцца проста нясумернымі. Таму меў поўную рацыю праф. Конэчны, калі прапанаваў назваць тое, што было зроблена этнографічнымі жмудзінамі і аўкштотцамі (цяперашнімі літоўцамі) ў мінуўшчыне, „летуўскім“, а не літоўскім! Толькі пры гэткім размяжаваньні гэтых тэрмінаў гісторыя „Летувы“ атрымае правільнае асьвятленьне, якое выключыць і „гістарычнае“ абасноўваньне літ. пратэнсіяў да бел. земляў і зробіць для собскага народу зразумелым яго гісторыю. Калі зірнуць вокам на эволюцыю навейшай літ. гісторыёграфіі, дык, здаецца, што яна хоць і пад прымусам, але ідзе ў гэтым кірунку.

**М. Ш.**

слаў грошы на паўгодзьдзе часапісу „Самапомач“ і не атрымаў ніводнага нумару; з рэдакцыяй паразумеўся пісьменна, яна мяне паведаміла, што высылаюць часапіс акуратна і прасілі дамагацца на пошце. Хоць мы дамагаліся раней, аднак не адкладаючы, з пісьмом пайшлі на пошту, дзе ізноў адказалі, што падобны часапіс ня прыходзіць — і нашы дамаганьні скаўзнулі па нічым, бо часапісаў і дагэтуль не атрымліваем. Сумна неяк пасьля такога адказу паштовай агенткі, бо засталіся зусім адарваныя ад навінаў з усяго сьвету і з Роднага краю, каторыя прачытываліся ахвотна ў сваёй роднай беларускай мове. Аднак-жа ізноў бліснуў ка мне надзеяй—прыпадкова атрыманы „Беларускі Фронт“ і на які я тады-ж паслаў 50 гр. на спробу, будзе ісьці, ці не. Але прайшло ўжо болей месяца і аб прошанай газэце ня чуваць... Шлю Вам адваротны канвэрт і чакаю адказу. (Подпіс).

Гэтакіх пісьмаў, картак і рэклямацыяў мы атрымліваем многа, а гэта дрэнны знак. Некаторыя пісьмы скіраваны ў Дыр. Пошт і Тел. у Вільні, а некаторыя перахоўваюцца ў нас. Скаргаў па аднэй або па некулькі на недаручаньне „Б. Фронту“ мы атрымалі з такіх поштаў: Новы Сьвержань, Стоўпцы, Паставы, Ляхавічы, Лунна, Ражаная Горадз., Мікалаева к/Дзісны, Куранец, Жыдомля, Новаельня, Касьцяневічы, Любча к/Нёману, Руднікі к/Пружаны, Рось і іншыя. Некаторым нашым падпішчыкам прымушаны былі высылаць упісною пасылкаю (poleconq).

Гэтак прадстауляюцца справы з даручаньнем, а лепш кажучы, з недаручаньнем нашай газеты. Цяпер пытаньне: што рабіць і дзе шукаць ратунку і абароны сваіх правоў? У Дырэкцыі Пошт і Тэлеграфаў? А можа ў Міністэрстве? Здаецца, што ў стараньнях трэба будзе браць пад увагу як адно так і другое. А ўсёжтакі мы павінны дабіцца пазытыўных рэзультатаў!

Аб тых справах, якія ўжо знаходзяцца ў Віл. Дырэкцыі Пошт і Тэлеграфаў, мы напішам другім разам.

## НЯБЫВАЛАЯ ГРАДАВАЯ БУРА.

Дня 1 жніўня над гмінамі Перабродзкай, Слабодзкай, Друйскай І Леанпольскай Брасл. павету перанёсься нябывалай сілы віхор з градам. Па палудні, каля гадзіны 3-яй, калі людзі стараліся каля звозкі снапоў, паказалася на паўночным захадзе цёмная хмара. Раптам сьцямнела і ўдарыў віхор, які падымаў снапы і нёс іх няведама куды, перакідаў людзей і вазы на полі, вываравачываў дрэвы, зрываў дахі з мацнейшых будынкаў, а слабейшыя раскідаў. Зараз пачаў ісьці град, вялічынёю з курынае яйцо, град нейкі кантаваты, востры, які пабіў нязжатае збожжа, паабіваў лісьце з дрэваў, а нават кару, пабіў птушак і зайцаў на полі, пакалечыў людзей і жывёлу. Трывала гэта каля 3—4 мінут, а потым лінуў дождж, пасьля каторага ізноў засьвяціла сонца. Дзьве асобы былі забіты, прыціснутыя ў адрыне страхою, якая завалілася. Матар'яльныя страты вялікія — да 5 мільёнаў зл. Тры тысячы разваленых або пашкоджаных будынкаў, на 12 тыс. гэктараў пабітае збожжа, паабіваныя фрукты ў садох. Мясцамі на полі не асталося і знаку збожжа, датаго ўсё было зьмяшана з зямлёю! Зараз пасьля катастрофы на месца буры выехалі мясцовыя ўлады, а пасьля і Віленскі ваявода, які на месцы даў адпаведныя загады і выступіў перад цэнтральнымі уладамі з праектам помачы пацярпеўшым ад няшчасьця. Як чуваць, гэтая помач ўжо прызнана.

Апісваючы гэтае няшчасьце, эндэцкі „Głos Narodowy“ (7.VIII) дадае, што тамашні народ ёсьць каталіцкі і польскі „паміма паваpхоўнага рускага налёту, каторы паўстаў у апошніх часох пад уплывам пасіленай „працы“ даўнейшых жыхароў Друйскага кляштару, сягоньня на шчасьце належачай да мінуўшчыны“.

Чытачы лёгка дагадаюцца, што гутарка тут ідзе аб выселеных беларускіх айцах Марыянах з Друі, каторыя быццам сваёй працай далі „рускі налёт“ мясцоваму каталіцкаму і „польскаму“ насельніцтву. Чытаючы гэтую зацемку эндэцкай газэты, сапраўды няведама, з чаго болей дзівіцца, ці з ігнаранцыі эндэцкіх пісакаў, ці з іх злосьці! Бо-ж кожны нават малаграматны чалавек ведае, што ў Браслаўшчыне жыве спрадвеку **беларускі** народ, які ўжывае сваей мовы і дзяржыцца сваіх спрадвечных беларускіх традыцыяў. Гэтак было на тысячу гадоў перад прыездам беларускіх манахаў у Друю, гэтак цяпер ёсьць і гэтак будзе. Ані нявуцтва, ані злосьць эндэцкіх пісакаў тут нічога ня зробіць. Дык нашто такая неразумная пісаніна?

# На міжнародным ґрунце

## АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

„Белая вайна“, або вайна нэрваў і дыплямацыі, даходзіць, здаецца, да свайго найвышэйшага пункту. Праціўнікі ня толькі гуртуюць каля сябе саюзьнікаў і мабілізуюць свае сілы, але паказваюць гэтыя сілы перад усім сьветам. Бадай па ўсіх дзяржавах, як „восі“ так і „мірнага блёку“, адбываюцца манэўры, якія ўважаюцца цяпер за скрытую мабілізацыю і гатоўнасьць у адпаведную хвіліну да ўдару... Пасьля заканчэньня ў Зах. Эўропе жніва гэты ўдар стаецца вельмі праўдападобны і дзеля гэтага ваенная гарачка натолькі паднялася, што некаторыя ў кожную хвіліну спадзяюцца ўзрыву... Кажуць, што калі ў жніўні або верасьні не наступіць узрыў, дык яго сёлета і зусім ня будзе!

Як звычайна робіцца ў прыпадках вялікага напружаньня, падаюцца нават даты гэтага ўзрыву, паказваюць, напрыклад, на дату 25 жніўня (дзень прыбыцьця ў Гданск нямецкага крэйсэра „Königsberg“), або на 27 жніўня (сьвяткаваньне немцамі 25-тых угодкаў перамогі над расейцамі пад Таннэнбэргам, у Мазурскіх азёрах Усх. Прусіі), іншыя яшчэ адкладаюць узрыў да часу кангрэсу гітлероўцаў у Нюрнбэрзе (3 — 9 верасьня) — словам, прароцтваў многа. Цікава ў гэтых прароцтвах адно — гэта зьвязваньне ўсіх магчымых падзеяў з імям Гітлера! Выглядае, што ад волі гэтага чалавека залежыць далейшы ход гісторыі чалавецтва...

Галоўныя факты „белай вайны“ ў першай палавіне жніўня былі такія: 1) завастрэньне нямецка-польскага канфлікту, які набліжаецца да вырашэньня, 2) зьезд міністраў Рыбэнтропа і Чыяно ў Зальцбургу, дзе між іншым была пастаўлена на парадку дня і гданская справа, а мін. Чыяно два разы выяжджаў у Бэрхтэсгадэн на канфэрэнцыю з Гітлерам, 3) выезд вайсковых ангьлійскай і францускай місіяў у Маскву і пачатак нарадаў паміж англ., франц. і савецкім ваеннымі штабамі, 4) завастрэньне адносін, пасьля кароткавечнай згоды, паміж Англіяй і Японіяй на Дал. Усходзе, 5) узгадненьне савецкіх і японскіх інтарэсаў на паўночным Сахаліне, 6) спробы далучэньня Японіі да ням.-італ. вайсковага саюзу, 7) перамога ў Гішпаніі „Фалянгі“, якая стаіць за супрацоўніцтва з „восяй“ Рым-Бэрлін і баязьнь Францыі перад трэцім фронтам, які ёй гразіць з боку Гішпаніі ў Пірэнэях.

Вось **галоўныя** падзеі „белай вайны“ з апошніх двух тыдняў. Пярэйдзем да падрабязнага разгляду некаторых.

## З БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ.

**„Хрысьціянск. Думка“** (10.VIII.) прыносіць вестку, што савецкія ўлады перамянілі назоў сталіцы БССР — **Менск** на **Мінск.** Значыць, у „незалежнай“ Сав. Беларусі нават сталіца ня можа быць называна **па-беларуску,** але мусіць быць называна па-расейску...

У тым-жа самым нумары „Хр. Д.“ піша, што ані ў віленскім, ані ў баранавіцкім радыё няма аўдыцыяў у беларускай мове, хоць слухае гэтых аўдыцыяў бел. насельніцтва. Польскае радыё заяўляе, што беларусы не дамагаюцца аўдыцыяў у сваей мове, так, як гэта робяць украінцы. На гэта трэба адказаць, што беларусы ўжо дамагаліся і сваіх школ, і сваіх арганізацыяў, і сваіх правоў у самаўрадзе — і які рэзультат? Гэта ўсё зьнеахвочвае бел. насельніцтва нават да дамаганьня сваіх аўдыцыяў у радыё. А гэта нядобра, **бо дамагацца заўсёды трэба.** Па дамаганьнях людзі праконываюцца аб жыцьцёвасьці народу.

## СПРАВА ГДАНСКА.

Аб нямецка-польскім канфлікце ў шырокім маштабе мы пішам на іншым месцы, тут хочам зьвярнуць увагу на справу Гданска, дзеля каторай можа пачацца канфлікт. У гэтай справе трэба адзначыць два факты: вельмі вострую кампанію проціў Польшчы, узьнятую ўсей нямецкай прэсай і зьезд у Зальцбургу.

Кампанія нямецкай прэсы проціў Польшчы вядзецца ад 6 жніўня, г. зн. ад прамовы марш. Рыдза-Сьміглага на зьезьдзе ў Кракаве і з кожным днём узмагаецца. Прычынай да кампаніі служыць усё: і прамовы польскіх дзяржаўных мужоў, і артыкулы ў польск. прэсе. Так, напрыклад, артыкул варшаўск. „Czasu“ выклікаў у ням. прэсе цэлую буру. У тым артыкуле былі такія сказы: „У старану Гданска скіраваны гарматы, якія стаяць на стражы польскага гонару. І няхай усе здаюць сабе з гэтага справу, што ў прыпадку, калі-б улады Вольнага Гораду, супроць вочавідным інтарэсам ягонага насельніцтва, намерыліся паставіць Польшч перад нейкім дакананым фактам, дык гарматы загрымяць“ (гл. „Кур. Віл.“ 9.VIII.). Апіраючыся на гэтых сказах „Czasu“ нямецк. прэса гразіць Польшчы і зьнішчэньнем яе незалежнасьці і чацьвертым падзелам. А мін. Гэбэльс у газэце „Angriff“ заявіў, што на ўсходзе Эўропы павінны быць зьменены ўсе граніцы, устаноўленыя Вэрсальскім трактатам...

**Зьезд у Зальцбургу** адкрыў новыя пляны ў нямецкай тактыцы. На гэтым зьезьдзе быццам апрацованы „мірны“ спосаб вырашэньня гданскай справы. Паводле гэтага пляну Гданск **паступова** пераходзіўбы ў уладаньне Нямеччыны. Спачатку меўбы быць зьліквідаваны Высокі Камісарыят Лігі Народаў у Гданску, а такжа польскі Генэральны Камісарыят, пасьля на працягу 5 гадоў была-б зьнесена мытная граніца паміж Гданскам і Ням. і такім спосабам Гданск паволі быўбы далучаны да Нямеччыны. Каб гэты плян даручыць Чэмбэрлену і Далядье, быў выкліканы да Гітлера Высокі Камісар з Гданска, Буркгард, які ўжо там быў, а цяпер выбіраецца ў Лёндан. З гэтага відаць, што гданская справа прыбліжаецца да свайго вырашэньня. Але ці гданская справа ня ёсьць толькі прэтэкстам і пачаткам да шырэйшай акцыі Нямеччыны на ўсходзе?... Трэба тут адно помніць: Нямеччына **за Гданск** ваяваць ня будзе. Калі пачнецца вайна, дык гэта будзе вайна за перадзел ўсходняй Эўропы і скасаваньня там граніц, устаноўленых Вэрсальскім трактатам, так, як аб гэтым заявіў Гэбэльс.

## МАСКОЎСКІЯ ПЕРАГАВОРЫ.

**Палітычныя** гутаркі ў Маскве прыпынены, містэр Стрэнг выехаў праз Швэцыю ў Англію, дзе здаў справу лёрду Галіфаксу з сваей місіі. Замест палітычных гутарак, якія не давялі да большых рэзультатаў, пачаліся **вайсковыя** паміж прадстаўнікамі трох штабаў: ангьлійскага, францускага і савецкага. Сталася гэта на выразнае жаданьне Саветаў, якія перад заключэньнем палітычнага саюзу хацелі даведацца, якую вайсковую помач магліб даць Саветам заходнія дэмакрацыі на выпадак вайны... І хоць сам Чэмбэрлен сьцьвердзіў, што яшчэ ў гісторыі ня было выпадку, каб перад заключэньнем паліт. саюзу адкрываць вайсковыя карты, аднак дэлегацыі ад штабаў англ. і франц. выехалі і 12.VIII. пачалі ў Маскве нарады з савецкім штабам.

Саветы да гэтых нарадаў прывязваюць вялікае значэньне і выдэлегавалі на нарады свае найвыдатнейшыя сілы: марш. Ворошылава, начальніка ген. штабу Шапашнікава (ўсе весткі аб ягонай „ліквідацыі“ аказаліся непраўдзівымі), яго заступніка Смородінова, наркома флёты Кузьнецова і наркома лятунства Локтіонова. Дапускаюць, што гутаркі патрываюць пару тыдняў. У гэтым часе госьці зазнаёмяцца з сав. ваенным промыслам, з выпраўкай і заспасабленьнем сав. арміі, пабываюць на манэўрах і г. д. З Лёндану паведамляюць, што тэмай гутарак будуць такія справы: 1) помач Саветаў для дзяржаў, загварантаваных Англіяй і Францыяй і гваранцыі для прыбалтыцкіх дзяржаў, 2) супрацоўніцтва лётніцтва ўсіх трох дзяржаў на ўсходзе і на захадзе Эўропы, 3) супрацоўніцтва флётаў на моры Балтыцкім, Паўночным, Міжземным і Чорным. Дзеля таго, што поўнае супрацоўніцтва ня можа быць праведзена бяз ўдзелу Польшчы і Румыніі, паўстаў праект прыцягнуць і гэтыя дзяржавы да супольнай канфэрэнцыі. Аднак ісьці на супрацоўніцтва і згадзіцца на савецкую помач ня хоча ані Польшч, ані Румынія, дык абедзьве дзяржавы вышлюць, як чуваць, на гэту канфэрэнцыю толькі сваіх абсэрватараў.

## РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— Японія, загрожаная Амэрыкай, пайшла на ўступкі перад Саветамі і згадзілася на ўсе савецкія варункі на Сахаліне. Але толькі на Сахаліне. Бітвы каля возера Буір-Нор і ракі Калкі за „выраўнаньне граніцы“ ідуць далей і робяцца штораз мацнейшымі. Як Японія так і Саветы пасылаюць туды вялікія падкрапленьні. Палітычныя кругі шукаюць сувязі паміж плянамі Нямеччыны ў Гданску і плянамі Японіі ў Манголіі...

У апошнім тыдні Японія рабіла стараньні далучыцца да вайсковага саюзу Рым—Бэрлін. Гэтым яна хоча напужаць Англію, Саветы і Амэрыку.

— Віл. „Słowo“ (15.VIII) паведамляе з Лёндану, што ў апошніх днях жніўня Гітлер мае выступіць з жаданьнем безадкладнага звароту Гданска, грозячы ў праціўным выпадку вайною. Гітлер спадзяецца, што Саветы, зьвязаныя Японіяй, ня выступяць, і што Англія і Францыя запрапануюць эўрапэйскую канфэрэнцыю дзеля мірнага залагоджаньня нямецкіх жаданьняў.

— Англія і Францыя робяць націск на Польшч у кірунку далучэньня яе да агульнага саюзу з Саветамі. Як падае ўкр. „Новий Час“ (3.VIII) у сувязі з гэтым націскам знаходзіцца адмова Англіі даць Польшчы пазыку золатам.

— Рузвэльт быццам прыслаў Сталіну пісьмо, у якім заахвочвае далучыцца да англ.-франц. саюзу, абяцаючы помач.

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski.

Druk. M. Bogatkiewicza i Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.